наша свабода

№25 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

23 ТРАЎНЯ 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



ЦЭНТР імя Дж.МАРШАЛА

# Радыяцыйны бум

Вольга АНЦЫПОВІЧ
Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**У Беларусі зноў радыяцыйны бум. Людзі ў чэргах пераказваюць адзін аднаму інфармацыю пра выкіды на Чарнобыльскай АЭС, пра пажары на радыяактыўных тарфяніках, навучаюць адзін аднаго, як правільна абараняцца ад радыяцыі. Што ж адбылося насамрэч?**

## Эвакуацыя ці планавы агляд?

У мінулы чацвер, 18 траўня, з самага ранку ўсе супрацоўнікі амбасады Ізраіля, што маюць ізраільскае грамадзянства, разам загрузіліся ў самалёт і паляцелі на радзіму. У Мінску засталіся толькі служачыя прадстаўніцтва, якія з'яўляюцца грамадзянамі Беларусі.

Аказалася, што, паводле інфармацыі ізраільскага боку, замеры, праведзеныя апошнім часам пад Мінскам, паказалі 6-7-разовае перавышэнне натуральнага радыяцыйнага фону. Гэтае перавышэнне магло ўзнікнуць у выніку лясных пажараў у раёне Чарнобыльскай АЭС.





Фота IREX/ProMedia

«Мы адклікалі нашых людзей з амбасады ў Мінску з-за павелічэння ўзроўню радыяцыі, – заявіла намеснік прэс-сакратара міністэрства замежных справаў Ізраіля Аміра Дотан карэспандэнту агенцтва *Reuters* у Ерусаліме. – Гэты крок быў рэкамендаваны ўрачом ізраільскага МЗС, і цяпер супрацоўнікі пасольства ў Мінску пройдуць на радзіме медыцынскі агляд». У сваю чаргу, кіраўнік прэсслужбы беларускага МЗС Мікалай Барысевіч афіцыйна паведаміў, што «ўсе дыпламатычныя супрацоўнікі ізраільскай амбасады знаходзяцца на планавым медычным аглядзе» і што з гэтага тыдня праца амбасады будзе аднаўленая. Цікава, што, як сцвярджаюць супрацоўнікі Ізраільскага культурнага цэнтра ў Мінску, падобных эвакуацыяў у мінулыя гады не было.

Агенцтва DPA паведаміла, што міністр замежных справаў Ізраіля прапанаваў сваім суайчыннікам не падарожнічаць цяпер у краіны былога СССР з нагоды паведамленняў пра высокі, небяспечны для здароўя ўзровень радыяцыі ў Беларусі, у прыватнасці вакол Мінска.

Ходзяць чуткі, што супрацоўнікі амбасады Японіі таксама пакінулі Беларусь. Праверыць, так гэта ці не, нам не ўдалося – усе тэлефоны там маўчаць.

Вельмі сур'ёзна паставіліся да гэтай праблемы Злучаныя Штаты Амерыкі. Паводле інфармацыі радыёстанцыі *Deutsche Welle*, Дзярждэпартамент ЗША мае намер у бліжэйшыя дні накіраваць у Беларусь групу экспертаў для замярэння ўзроўню радыяцыйнага фону ў нашай краіне.

Супрацоўнік інфармацыйнай службы амбасады ЗША ў Мінску Аляксей Саламаха паведаміў нам, што амбасада таксама праводзіла кантрольныя замеры пад Мінскам, але перавышэння не выйшла. Яны гатовыя на пэўныя захады перасцярогі. Сярод іх – запрашэнне адмысловых тэхнічных экспертаў з Вашынгтона для правядзення маніторынгу радыяцыйнага ўзроўню. Па словах А.Саламахі, пакуль што амбасада працуе ў звычайным рэжыме, эвакуацыя супрацоўнікаў не праводзіцца. Тым не менш, ён не змог адказаць, ці знаходзіцца цяпер амерыканскі амбасадар у Мінску.

Мы звязаліся таксама з амбасадамі іншых краінаў, каб даведацца, ці не збіраюцца яны пакінуць Беларусь у сувязі з магчымым павышэннем радыяцыйнага ўзроўню. У амбасадзе Германіі нам адказалі, што, паводле іхняй інфармацыі, узровень радыяцыі ў Мінску знаходзіцца ў норме, таму ніякай нагоды для прыпынення сваёй працы амбасада не бачыць.

Працягвае працаваць і амбасада Літвы. Саветнік амбасадара адзначыў, што яны штодня атрымліваюць звесткі ад міністэрства па надзвычайных сітуацыях адносна ўзроўню радыяцыйнага фону на тэрыторыі Беларусі. У гэтых звестках літоўская амбасада не ўбачыла нічога небяспечнага і таму пакідаць Беларусь не збіраецца.

Амбасадар Францыі Бернар Фасье заявіў, што ў бліжэйшыя месяцы не плануе з'язджаць з Беларусі. Чуткі пра павышэнне радыяцыйнага ўзроўню ці аварыю на Чарнобыльскай АЭС яго не вельмі цікавяць, бо інфармацыю пра экалагічную сітуацыю ў Мінску і іншых гарадах Беларусі ён атрымлівае не толькі з афіцыйных установаў, але і з іншых крыніцаў. «Прааналізаваўшы ўсе паступіўшыя да мяне звесткі, я зрабіў высновы, што ніякай небяспекі для мяне ці супрацоўнікаў амбасады няма»,– падкрэсліў Бернар Фасье. ▶

*Заканчэнне на стар.2*

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Сёння ў Мінску адбудзецца паседжанне Савета кіраўнікоў урадаў і Міждзяржаўнага савета дзяржаваў-удзельніцаў Мытнага саюза.** Яно павінна прайсці ў мінскай рэзідэнцыі А.Лукашэнкі. Для ўдзелу ў ім да нас прылятаюць прэзідэнты Арменіі — Роберт Качаран, Кыргызстана — Аскар Акаеў, Расіі — Уладзімір Пуцін і Таджыкістана – Эмамалі Рахмонаў. Разам з імі таксама прыбудуць прэм'ер-міністры гэтых краінаў. Прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў і прэм'ер-міністр Касымжамарт Такаеў ужо прыляцелі ў Мінск учора. А заўтра раніцай у выканаўчым камітэце СНД пройдзе сумеснае паседжанне міністраў замежных справаў і абароны Савета калектыўнай бяспекі дзяржаваў СНД. Затым там жа адбудзецца паседжанне сесіі Савета калектыўнай бяспекі, у якім возьмуць удзел прэзідэнты.

■ **Учора зноў была зніжаная базавая стаўка рэфінансавання – цяпер яна будзе складаць 100% гадавых.** Праўленне Нацыянальнага банка Беларусі прыняло адпаведнае рашэнне. Сёлета стаўка рэфінансавання ў Беларусі мянялася ўжо шэсць разоў. Напачатку года яна была павялічаная да 175% гадавых, аднак з 15 сакавіка пачалося яе паступовае зніжэнне. Апошняя яе велічыня, устаноўленая з 20 красавіка, склала 110% гадавых. У Нацбанку Беларусі паведамілі, што зніжэнне гэтага фінансавага інструмента, які вызначае кошт крэдытных рэсурсаў, абумоўленае сёлетнім зніжэннем узроўню інфляцыі ў краіне.

■ **Адборачная камісія Нобелеўскага камітэта прыступіла да разгляду кандыдатуры прэзідэнта Азербайджана Гейдара Аліева на саісканне Нобелеўскай прэміі міру за 2000 год.** На думку ініцыятыўнай групы па вылучэнні Г.Аліева, на карысць прэзідэнта Азербайджана сведчаць яговыя «несумненныя асабістыя якасці дзяржаўнага дзеяча, у аснове жыццёвай філасофіі, унутранай і знешняй палітыкі якога ляжыць трыадзіная мэта – мір ва ўласнай краіне, мір з суседзямі, мір у рэгіёне».

## НАДВОР'Е



# Экс-прэм'ер выйграў волю, але прайграў 209 мільёнаў

## Асудзіўшы Міхаіла Чыгіра, улады ўсё ж не рызыкнулі адправіць яго за краты

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Яшчэ адной тлустай плямінай паболела на мундзіры беларускага правасуддзя пасля рашэння, якое абвесціў у мінулую пятніцу гарадскі суддзя Аляксандр Васілевіч. Былому прэм'еру Міхаілу Чыгіру далі тры гады турмы з двухгадовай адтэрміноўкай і абавязалі яго заплаціць дзяржаве 209 мільёнаў новых рублёў. Гэта пры тым, што па ўсіх, акрамя аднаго, эпізодах абвінавачвання Чыгір быў апраўданы. З чатырох артыкулаў, якія яму інкрымінаваліся пракуратурай, застаўся толькі 167-ы частка 2, у якім ідзе гаворка пра перавышэнне ўлады з нанясеннем вялікай шкоды. Суд убачыў гэткім вынік прадастаўлення прэм'ерам Чыгіром адтэрміноўкі выплаты мытаў камерцыйнай фірме «Піаск». Тое, што мыты, паводле закона, павінен быў спагнаць мытны камітэт, што дзяржаўныя ўстановы не выканалі ўмоваў адтэрміноўкі — неістотна, палічыў суд.

Уражанне такое, быццам для суддзяў галоўным было знайсці хоць якую зачэпку, каб «навесіць» на былога прэм'ера крымінальнае злачынства і выканаць загад зверху на ягонае асуджэнне. І гэта было зроблена, але настолькі відавочна палітычная мэта прысуду, што самы час згадаць прымаўку пра паслужлівага дурня, які горш за ворага.

Чарговае трападанне ў брыдкую лужыну нашай праваахоўнай сістэмы не здзіўляе – таму прычынай бязмежная паслухмянасць кіраўнікоў пракуратуры і яшчэ больш зняважлівая пакорнасць некаторых суддзяў. Гэтыя якасці нашых законнікаў нам добра вядомыя па іншых палітычных справах — дэпутатаў Кудзінава і Клімава, старшыні «Рассвета» Старавойтава, былога міністра Лявонава— а ў справе экс-прэм'ера Чыгіра яны проста справілі бенефіс.

Фота Ул.ШЛАПАКА

Высокапастаўленыя пракуроры санкцыявалі арышт Міхаіла Чыгіра і ягонае ўтрыманне за кратамі на працягу 8 месяцаў, не маючы аніякіх доказаў віны! Гэта фактычна прызнаў суд, прыняўшы на адрас генпракурора Алега Бажэлкі прыватнае вызначэнне за парушэнне нормаў расследавання. Але той жа суддзя Аляксандр Васілевіч мог, толькі не знайшоў магчымасці, як ягоны папярэднік, адмовіцца ад вядзення справы, якая адпачатку выглядала як вельмі гнілая. Апраўдаўшы Чыгіра ў чыстую па пяці з шасці эпізодаў, сам жа суд гэта і пацвердзіў.

Атрымліваецца, што на працягу пяці з шасці месяцаў суддзі займаліся марнатраўствам, разбіраючыся з бязглуздымі доказамі следчых пракуратуры? Але Міхаіл Чыгір яшчэ ў пачатку працэсу казаў, што ў абвінаваўчым заключэнні няма сапраўдных доказаў ягонай віны і справядліва будзе правесці расследаванне супраць тых, хто ўтрымліваў яго незаконна ў турме, а потым фальсіфікаваў абвінавачванне. Не, гэта не было зроблена. Суддзі выбралі доўгі паказальны працэс, падчас якога твар правасуддзя ў лукашэнкаўскай Беларусі сапраўды быў паказаны.

Відавочнымі сталі і мэты ўлады, а таксама тое, што на гэты раз у ёй атрымалася ўсё наадварот. Замест дыскрэдытацыі Чыгіра ўлада зрабіла яму паблісіці, пазбавіць яго магчымасці займацца палітыкай таксама не ўдалося, а цяпер тым больш не ўдасца. Як аказалася, Чыгір умее трымаць удар, а калі трэба, можа і сам ударыць. Цяпер якраз прыйшоў час ягонага ўдару ў адказ.

І ужо зусім відавочныя страты ад гэтага працэсу для рэнамэ беларускай улады ў свеце. Такой паразы за ўсе гады пасля рэферэндуму не было. Больш года цярпець знішчальную крытыку міжнародных арганізацыяў, выслухваць заўвагі розных місіяў, даваць падставы амбасадарам рабіць нам заўвагі за пераслед палітычнага саперніка, сваімі рукамі ўзмацніць апанентаў на перамовах, каб, у рэшце рэшт, усё роўна пакінуць Чыгіра на волі? Навошта ж тады былі гэткія пакуты? Не, яўна памыліліся тыя дарадцы Лукашэнкі, якія напачатку мінулага года параілі яму ўжыць супраць Чыгіра «сілу закона» і засадзіць яго ў турму як крыміналіста. Сабе аказалася даражэй, лепш было не чапаць былога прэм'ера, хай бы марыў далей пра прэзідэнцтва!

Безумоўна, вынікі працэсу, што закончыўся ў Мінскім гарадскім судзе, яшчэ падводзіць рана. І не толькі таму, што Міхаіл Чыгір збіраецца абскарджваць рашэнне ў вышэйшай судовай інстанцыі. Галоўнае — ці будзе дасягнутая заяўленая Міхаілам Чыгіром мэта. А гэта, паводле ягоных словаў, не столькі прэзідэнцтва, не столькі атрыманне вышэйшай улады (адзін да яе ўжо дарваўся і, акрамя як яму, нікому ад гэтага не палепшала), колькі перш за ўсё рэфармаванне гаспадаркі краіны і яе дзяржаўнага ладу. «Беларусь павінна заняць прыстойнае месца ў свеце, а не быць ізгоем у цэнтры Еўропы. Нашыя людзі маюць права на заможнае жыццё, а дзеля гэтага трэба, каб яны падняліся з каленяў», — лічыць Міхаіл Чыгір. ■

**САЦЫЯЛОГІЯ**

# Традыцыйныя весткі міністэрства статыстыкі

**Сакрат КАНСТАНЦІНОВІЧ**

**По дадзеных міністэрства статыстыкі, за тры месяцы бягучага года насельніцтва Беларусі зменшылася на 11 тысяч чалавек і склала па стану на 1 красавіка 10.008,5 тысячы. Скарачэнне адбылося таму, што памерла на 15,3 тысячы чалавек больш, чым нарадзілася, а таксама таму, што ў Беларусь на сталае жыхарства прыехала людзей меней, чым за тры месяцы мінулага года.**

Больш усяго людзі паміралі ў Мінскай вобласці (натуральнае выбыццё склала -8,6 чалавека на 1.000 насельніцтва), у Віцебскай і Магілёўскай абласцях (-8,4), менш за ўсё ў Мінску (-1,6).

Колькасць зарэгістраваных шлюбаў павялічылася на 350 супраць першага квартала мінулага года, а колькасць разводаў – на 591. Таму пагоршыліся суадносіны скасаваных і рэгіструемых шлюбаў. У мінулым годзе на 1.000 шлюбаў выпадала 897 разводаў, сёлета – 918.

У І квартале ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года захворванні на вірусны гепатыт павялічыліся на 25,5%, прычым у Мінску, Гродзенскай і Віцебскай абласцях – у 2-2,4 раза. Захворванне насельніцтва туберкулёзам органаў дыхання павялічылася на 1,6% і склала 1.078 выпадкаў. Найбольшы рост адбыўся ў Гродзенскай вобласці (на 29,8%) і ў Мінску (на 7,3%). У пераліку на 100.000 насельніцтва самы высокі ўзровень захворванняў назіраўся ў Гомельскай вобласці – 64 выпадкі (у сярэднім па краіне – 43 выпадкі).

У 2,3 раза павялічылася захворванне дыфтэрыяй – 18 выпадкаў супраць 7 выпадкаў у І квартале мінулага года. Зафіксавана 2.487 выпадкаў захворвання ганарэяй (на 5,3% больш). У Гродзенскай вобласці гэты паказчык падскочыў на 38,3% і ў Магілёўскай – на 36,8%.

Па дадзеных Рэспубліканскага цэнтра СНІД, на 1 красавіка бягучага года на ўліку знаходзілася 2.907 чалавек, у тым ліку з дыягназам – 26 чалавек. За І квартал выяўлена 155 выпадкаў ВІЧ-інфіцыраваных. З іх ліку 44% прыпадае на Гомельскую вобласць. Асноўнай прычынай заражэння (81%) з'яўляецца сумеснае ўвядзенне наркотыкаў.

Колькасць зарэгістраваных цяжкіх злачынстваў, па дадзеных МУС, у студзені–красавіку 2000 года склала 22,7 тысячы, што на 6% болей, чым у студзені–красавіку мінулага года. У сферы эканомікі крымінальныя справы ўзбуджаныя па 8,5 тыс. злачынстваў, што складае 94% ад усіх эканамічных злачынстваў. Буйных і асоба буйных здзейснена 718 злачынстваў, што на 14% болей, чым у студзені-красавіку мінулага года.

З 21,9 тысячы выяўленых асобаў, што здзейснілі злачынствы, непаўналетнія склалі 11%, жанчыны – 19%. На момант здзяйснення злачынства 45% асобаў, якія зрабілі іх, нідзе не працавалі і не вучыліся. Да крымінальнай адказнасці прыцягнута 19,9 тыс. чалавек, ці 91% ад выяўленых правапарушальнікаў.

Павялічылася колькасць злачынстваў, здзейсненых групай асобаў (5,8 тысячы, што на 6% болей, чым у студзені–красавіку мінулага года). Асобамі, што знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення, здзейснена 6 тысяч злачынстваў (14% ад агульнай колькасці зарэгістраваных). Колькасць злачынстваў, здзейсненых асобамі, якія ўжо мелі крымінальнае пакаранне, склала 8 тысяч, што на 11% болей, чым у студзені–красавіку мінулага года.

Раскрываемасць злачынстваў склала 68,5% супраць 70,4% у студзені–красавіку мінулага года. ■

ул.Блохина, 8
Телефон: (02144) 59-567
Телефакс: (02144) 59-567

**Филиал 0302**
213800, **г.Бобруйск**
ул.Октябрьская, 149А
Телефон: (02251) 24-774
Телефакс: (02251) 20-915

**Головной филиал по Гомельской обл.**
246050, **г.Гомель**
ул.Первомайская, 20
Телефон: (0232) 52-40-42, 52-41-39
Телефакс: (0232) 52-40-94
**Филиал 0401**
247760, **г.Мозырь**
ул.Интернациональная, 162
Телефон: (02351) 20-159
Телефакс: (02351) 23-254

**Головной филиал по Брестской обл.**
224013, **г.Брест**
б.Шевченко, 6/1
Телефон: (0162) 22-11-53
Телефакс: (0162) 22-11-38
**Филиал 0505**
225320, **г.Барановичи**
ул.Ленина, 71
Телефон: (01634) 52-121
Телефакс: (01634) 25-753
**Филиал 0508**
225520, **г.Пинск**
ул.Советская, 14
Телефон: (01645) 21-019
Телефакс: (01645) 24-742

**Головной филиал по Гродненской обл.**
230023, **г.Гродно**, ул.Мостовая, 37
Телефон: (0152) 47-28-36
Телефакс: (0152) 44-26-53
**Филиал 0605**
213900, **г.Волковыск**
ул.С.Панковой, 58
Телефакс: (01563) 24-155
**Филиал 0603**
231800, **г.Слоним**
ул.Комсомольская, 8
Телефакс: (01562) 23-304
**Филиал 042**
247210, **г.Жлобин**
ул.Первомайская, 39
Телефон: (02334) 28-339
Телефакс: (02334) 21-611, 29-208
**Филиал 0404**
247400, **г.Светлогорск**
ул.Ленина, 49
Телефакс: (02342) 20-148
**Филиал 0504**
224005, **г.Брест**
ул.Пушкинская, 16/1
Телефон: (0162) 23-26-40, 23-36-98
Телефакс: (0162) 23-26-40
**Филиал 0502**
225215, **г.Белоозерск**
ул.Ленина, 48
Телефон: (01643) 28-251
Телефакс: (01643) 20-072
**Филиал 0506**
225710, **г.Ивацевичи**
ул.Иркутско-Пинской дивизии, 36
Телефакс: (01653) 59-548
**Филиал 0602**
231300, г.Лида, ул.Чапаева, 20
Телефон: (01561) 20-651
Телефакс: (01561) 26-703

**В отделении «Центральное» ОАО «Белбизнесбанка»** по адресу: **г.Минск**, пл.Свободы, 17.

**ИЗВЕЩЕНИЕ**

**Редакция газеты «Наша СВАБОДА»**
получатель платежа

Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя **3012205160015** Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество)

(адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| За подписку на газету «Наша СВАБОДА» с ______ по ______ 2000г. | | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Всего | |

Кассир Плательщик

**Редакция газеты «Наша СВАБОДА»**
получатель платежа

Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя **3012205160015** Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество)

(адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| За подписку на газету «Наша СВАБОДА» с ______ по ______ 2000г. | | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Всего | |

**КВИТАНЦИЯ**

Кассир Плательщик

# Дваякі падыход да Беларусі

**Ян РУМЛ,**
**сенатар Чэшскага сейма ад Уніі Свабоды**

«Беларусь у Еўропу, Лукашэнка ў Шклоў» — скандавалі беларускія студэнты ў Мінску падчас дэманстрацыі ў дзень гадавіны Чарнобыльскай катастрофы. Мілаш Якэш (былы генсек Камуністычнай партыі Чэхаславакіі) калісь зусім палукашэнкаўску казаў, што крымінальныя элементы злоўжылі ўсенароднаю трагедыю да палітычных правакацыяў.

Але ўсё ж Лукашэнка — не Якэш, а Беларусь — не Чэхаславаччына ў 1989 годзе, падабенства толькі выпадковае. На гэтай шматпакутнай зямлі, па якой прынамсі за апошнія 200 гадоў прайшлі пэўна ўсе еўрапейскія войны і якая за гэты час была незалежнай дзяржавай каля трох гадоў, уладарыць жорсткі дыктатарскі рэжым усходняга кшталту. Хай вас не збівае з панталыку існаванне апазіцыйных партыяў ды незалежнага друку. Яны пакуль адзіная выспа супраціву сярод абшару, які моцна залежыць ад Масквы. Гэта яшчэ раз доказвае, што прага да свабоды і дэмакратыі незнішчальная.

У Беларусі кіруе дэкрэтамі прэзідэнт з пратэрмінаваным мандатам, які да таго ж мае самім сабой прызначаны парламент. Нелегітымны рэжым паўсоль парушае правы чалавека, засуджвае апазіцыю, гвалтам русіфікуе ўсю краіну. Пуцін з Лукашэнкам працуюць над стварэннем расійска-беларускага саюза ды рыхтуюць 300-тысячную сумесную вайсковую групоўку, якая б на беларуска-расійскіх межах мусіла б быць шчытом супраць NATO. Гэта не выключае і размяшчэння ракетаў малога радыусу дзеяння з ядзернымі баегалоўкамі.



Як жа на становішча ў Беларусі ды на пагрозы, што ад яе зыходзяць, рэагуюць дэмакратычныя краіны? Тыпова шызафрэнічным чынам. Чэшская Рэспубліка вербальна асуджае лукашэнкаўскі рэжым, праўда, даволі стрымана, а з другога боку дае пазыку на закуп свайго ж уласнага зерня. ЗША пратэстуюць даволі прынцыпова, але гэтую вастрыню прытупляе ў каторы раз дэманстраваны па беларускай тэлевізіі здымак з саміта АБСЕ ў Стамбуле, дзе прэзідэнт Клінтан з Лукашэнкам ціснуць адзін аднаму рукі ды вядуць сяброўскую размову.

АБСЕ сама хапае вяроўку за два канцы. Як бы яе прызначчэнне было рабіць менавіта гэта, а таму прыдумалі квадратуру круга: як зрабіць кастрычніцкія выбары на Беларусі выбарамі дэмакратычнымі. Выстаўляе тады вельмі мяккія ўмовы для змены выбарчага закона, які не адпавядае нормам палітычнага плюралізму, ды пасярэднічае няроўнаму псеўдадыялогу паміж рэжымам і апазіцыяй.

Апазіцыя ў сваёй бальшыні добра ведае, што ўдзельнічаць у выбарах у становішчы, калі прызначаны парламент не мае ніякага шанцу што-небудзь вырашыць, азначае легітымізаваць таталітарную сістэму. А дзеля гэтага Лукашэнка ідзе на ўсё... Перад сусветнай супольнасцю стаіць дылема — ці ізаляваць лукашэнкаўскі рэжым, ці культываваць. А таму пакуль не робіць не тое, не гэтае. Робіць самае горшае — нешта сярэдняе. Прадстаўнікі АБСЕ кажуць аб тым, што становішча не ёсць чорна-белым. Дык Лукашэнка мусіць насадзіць галовы сваіх апанентаў на калы, каб адпавядаць крытэрыю чорна-беласці?!

Толькі моцны палітычны і эканамічны ціск на беларускі рэжым, а таксама на Расію, якая сваю генацыдную практыку не вычарпала ў Чачні, толькі паслядоўная падтрымка апазіцыі ды бясспрэчнае выкананне правоў чалавека могуць прынцыпова змяніць становішча на Беларусі. А таму заходняя дэмакратыя мусіць устаць з двух крэслаў ды пачаць штосьці рабіць. Па Балканскім досведзе, гэта не мусіць быць так цяжка. Сваёй бяздзейнасцю дэмакратыя пагражае сваёй уласнай аснове. ■

**«Mlada Fronta Dnes», 6 траўня 2000**

# Украіна не хоча ў Саюз

**Алесь БЕЛЫ**

Ні эканамічных, ні палітычных падставаў для далучэння Украіны да Саюза Расіі і Беларусі няма. Пра гэта заявіў 19 траўня ў Кіеве першы намеснік старшыні Вярхоўнай рады Украіны Віктар Медзвядчук.

Як паведаміла агенцтва УНІАН, такім чынам ён пракаментаваў меркаванне старшыні Дзяржадумы Расійскай Федэрацыі Генадзя Селязнёва аб магчымым далучэнні Украіны да беларуска-расійскага саюза, выказанае ў Мінску на сесіі Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі. Пры гэтым Віктар Медзвядчук падкрэсліў: падставаў для далучэння да беларуска-расійскага саюза ва Украіны не будзе ніколі. ■

# Балтыя просіцца ў NATO

**Міхась КАРПОВІЧ**

Латвія, Літва і Эстонія афіцыйна звярнуліся да Паўночнаатлантычнага альянсу з просьбай прыняць іх у 2002 годзе.

Дзевяць еўрапейскіх краінаў, сярод якіх – усе тры рэспублікі Балтыі, звярнуліся да NATO з заклікам прыняць іх у альянс у 2002 годзе. Гэты заклік утрымліваецца ў заяве, прынятай па выніках міжнароднай канферэнцыі «Роля NATO ў змяніўным асяроддзі еўрапейскай бяспекі», якая прайшла нядаўна ў Вільнюсе. У форуме бралі ўдзел міністры замежных справаў усіх дзевяці краінаў-кандыдатаў. На канферэнцыі таксама прысутнічаў генеральны сакратар Паўночнаатлантычнага альянсу Джордж Робертсан. ■



# Ідзе VISAвы рэжым

**Ірына СТАРЦАВА**

Агульная колькасць крэдытных картак сістэмы *VISA*, выдадзеных па ўсім свеце, сягнула фантастычнай лічбы ў 1 мільярд. Пра гэта паведаміла прэс-служба *VISA* ў Расіі.

Абарот па картках, што былі выдадзеныя ў 1999 годзе, узрос на 19%. За мінулы год *VISA* правяла больш за 21,3 мільярда аперацыяў, што на 20% больш за адпаведны паказчык 1998 года. Паводле даследавання, праведзенага амерыканскай кампаніяй *WEFA*, да 2004 года чакаецца, што колькасць грошай, патрачаных па крэдытках *VISA*, складзе 11% ад агульнай колькасці ўсіх грошай у свеце, што будуць патрачаныя іхнімі ўладальнікамі.

Паводле меркавання экспертаў *VISA*, да 2003 года 50% усіх трымальнікаў картак *VISA*, магчыма, будуць разлічвацца за пакупкі праз Інтэрнэт. ■

# Падение Сайгона: 25 лет спустя

**Лан ЦАО,**
**автор книги «Мост Обезьян» о жизни вьетнамских беженцев до и после падения Сайгона**

**Долгая война во Вьетнаме закончилась 25 лет назад, 30 апреля 1975 года. Как прохожий смотрит на обломки дорожного происшествия, так я смотрела на падение Сайгона по телевизору, сидя в Коннектикуте с моей новой семьей. Как миллионы других американцев, я была заворожена крушением страны, где воевали полмиллиона американцев, 50.000 из которых погибли.**

Мне повезло. Когда мне едва исполнилось двенадцать лет, я покинула Сайгон за месяц до его падения, с американским офицером, с которым я подружилась в военном госпитале, где я и моя мама работали добровольцами. Это было в 1968. Мы приносили ему рисовую кашу, шоколадные эклеры, конфеты. Пока он лежал забинтованным, я рассказывала ему истории, которые заставляли его смеяться. Через семь лет, когда танки северного Вьетнама пересекли Зону Демилитаризации (DMZ), он вернулся и удочерил меня, забрав меня из страны за несколько месяцев до того, как ее покинули мои родители.

Из нашей жилой комнаты мы смотрели, как толпы вьетнамских вооруженных сил прорывались на охраняемые территории США. Вертолеты садились на крышу посольства США. Это была операция «Частый Ветер», кодированное название американской эвакуации из Сайгона. Исход происходил через воздух, в направлении Седьмого Флота, патрулировавшего юг Китайского моря; и через море, переполненное баржами, рыбацкими лодками и другими наводными средствами. Свыше 100.000 вьетнамцев убежали только в апреле и мае 1975 года, их число достигло 2 миллионов в последующие годы.

Войны часто недоступны пониманию тех, кто их переживает. Начало, конец, начало конца – все это вопросы историков. Те, кто выжил в войне во Вьетнаме и сбежал, потому что внезапно оказался на проигравшей стороне истории, борется с вопросами забвения, с тем, как жить без воспоминаний – без воспоминаний до прихода такой годовщины, как эта. 30 апреля: День освобождения для коммунистического Вьетнама, день Национальной утраты, как называют его вьетнамские беженцы.

Заново изобретенный Голливудом для американского самоосмысления, взаимного обвинения и сожаления, Вьетнам стал аллегорической черной дырой. В таких фильмах, как «Апокалипсис сегодня» и «Взвод», затененные враги прячутся в галлюциногенной темноте зловонных болот джунглей. Символы разочарования изобилуют в «Рожденном четвертого июля», где размахивающий флагом патриот трансформирован в антивоенного демонстратора. «Охотник на оленей» превращает Вьетнам в метафору безумия, произвольный щелчок пистолета в игре в русскую рулетку, сигнализирующий о границе между жизнью и смертью для американских солдат, помешанных на войне и аде, разыгравшихся в очень малом пространстве.

Для многих вьетнамцев 30 апреля – это день рождения заново. Двадцать пять лет спустя после падения Сайгона многие из нас мало-помалу отошли от



модели американской жизни. Мы выучили резкие звуки американской жизни, но сохранили и свои многочисленные варианты звуков родного языка.

По всей Америке, в апельсиновом краю Калифорнии, в Хьюстоне и Далласе, Арлингтоне и Вирджинии, Сайгон был воскрешен. В этих «малых Сайгонах», мини-молы заполнены вьетнамскими супермаркетами американского стиля, ресторанами, булочными, парикмахерскими, медицинскими и юридическими офисами, туристическими агентствами и всеми типами бизнеса сферы услуг. Кафе-мороженые называются «Гиврард» и «Бродард», рестораны – «Пастер», именами популярных ранее заведений Сайгона.

Через двадцать лет после исхода из Вьетнама начинается исход в обратном направлении. Вьет Кие – название вьетнамской диаспоры – возвращаются тысячами, принося с собой во Вьетнам бесценные американские доллары. Здесь, во Вьетнаме, мы находим кафе-мороженое, которые называются «Баскин Роббинс», рестораны с названием «Кафе Калифорния» и бары «Апокалипсис Сегодня». Для тех, кто остался здесь, Америка – это страна снов и американский паспорт — предмет общего восхищения.

В Хо Ши Мин Сити, имя которым не пользуются даже коммунистические чиновники, Сайгон остался таким же энергичным и смелым. В городе, который носит его имя, Хо Ши Мин более или менее игнорируется, хотя его портреты и выглядывают между рекламой «Сони» и «Кока-колы». До 1986 года владеть частным бизнесом было преступлением. В результате экономических реформ частная экономика, особенно в Сайгоне, превосходит государственную.

Четыре года назад я читала серию лекций по приглашению министерства образования и улучила момент для посещения своего дяди, Вьетконга, который остался позади после победы коммунистов. Он хотел узнать, как его провинция Меконг Дельта может привлечь долю иностранных инвестиций, которые в основном отправляются в Сайгон.

30 апреля действительно зовется Днем освобождения во Вьетнаме: полтора миллиона вьетнамцев погибли в этой войне, три миллиона ранены. Но возможно, как говорит мой дядя, это Юг освободил Север, а не наоборот. ■

**P.S.**

# Францыя пачынае друкаваць еўра

**Міхась КАРПОВІЧ**

Францыя ўжо спыніла друк нацыянальнай грашовай адзінкі – франка і пераходзіць да друкавання банкнотаў еўра. Апошняй купюрай, якую выпусціў *Banque de France*, сталі 500 франкаў.

Бліжэйшыя паўтара года Францыя будзе карыстацца толькі банкнотамі са свайго запасу. А 1 студзеня 2002 года ў абарачэнне афіцыйна і цалкам увойдзе еўра – пакуль што гэтая валюта выкарыстоўваецца толькі для безнаяўных разлікаў.

Эмісія новых банкнотаў размеркаваная Цэнтральным еўрапейскім банкам Еўропы паміж 11 краінамі, што ўтвараюць цяпер валютны саюз. Паводле папярэдніх разлікаў, на першым этапе Еўропе спатрэбіцца 13 мільярдаў банкнотаў еўра – наміналам ад 5 да 100. Усе яны мусяць быць надрукаваныя да заканчэння наступнага года. ■

# Расійскія рахункі пад арыштам

**Міхась КАРПОВІЧ**

У Еўропе пачаліся арышты расійскай маёмасці. Ужо блакіраваныя рахункі ў Францыі, Швейцарыі і Люксембургу. Прычына – іск швейцарскай фірмы *Noga* да расійскага ўрада.

Рашэнне аб арышце прымаў арбітражны суд Стакгольма. У выніку Банк Расіі і некалькі расійскіх кампаніяў не могуць аперыраваць сваімі сродкамі. Усяго на арыштаваных рахунках – 60 мільёнаў долараў. Гэтая навіна стала абсалютна нечаканай для расійскіх банкіраў.

Напачатку 90-х гадоў швейцарская фірма *Noga d'Importation et d'Exportation SA* стала даваць Расіі крэдыты, на якія сама ж закупляла прадукты харчавання і некаторыя іншыя тавары. Па сведчанні расійскага боку, цэны на пастаўленыя тавары істотна завышаліся. Калі агульная сума запазычанасці дасягнула 1,4 мільярда долараў, расійскі бок адмовіўся яе аплачваць цалкам. *Noga* справядліва палічыла, што яе абдзялілі, і падала ў суд. Сума прэтэнзіяў – 800 мільёнаў долараў. У 1993 годзе на замежную маёмасць Расіі быў накладзены арышт – усяго на 280 мільёнаў долараў. Справа ішла да арышту і іншых валютных рэзерваў. Тады расійскі бок выпрашыў усіх перахітрыць і заснаваў афшорную кампанію *FIMACO*, на якую былі пераведзеныя ледзь не ўсе актывы Расіі за мяжой. Аднак гэты захад вельмі не спадабаўся МВФ – фонд страціў магчымасць кантраляваць сапраўднае эканамічнае становішча Расіі і таму наваt не хацеў даваць ёй крэдыты. У выніку летась *FIMACO* была закрытая. *Noga* зноў пачала патрабаваць праз суд свае грошы. У выпадку, калі арышты працягнуцца, уся знешнеэканамічная дзейнасць Расіі можа быць спаралізаваная. ■

# «Мы не павінны жыць адным днём...»

Інтэрв'ю
Алеся БЯЛЯЦКАГА

**Так званая ўсенародная падтрымка Лукашэнкі ў вялікай ступені базуецца на адсутнасці ў часткі насельніцтва яснага ўяўлення пра альтэрнатыву. Дастаткова пагутарыць з людзьмі ў глыбінцы пра цяперашнюю беларускую рэчаіснасць – і адразу паўстаюць два адны і тыя ж пытанні. Акрамя таго, што зняверaны і расчараваны народ не бачыць моцнага лідэра сярод дзеячаў апазіцыі, дык даволі часта можна пачуць думку, што апазіцыя «ўмее толькі гаварыць лозунгі», не маючы дакладнай праграмы дзеянняў. Памятаю, як аднаго разу мяне спыталі: «Што будзе, калі апазіцыя прыйдзе да ўлады? Анархія, разруха і хаос?» Аднак усё не так проста, як бачыцца збоку чалавеку недасведчанаму. Ужо сёння на Беларусі фармуецца падмурак будучай правячай нацыянальнай эліты. Пра некаторыя аспекты гэтага працэсу мы пагутарылі з Алесем БЯЛЯЦКІМ – намеснікам старшыні БНФ, кіраўніком праваабарончага цэнтра «Вясна».**

***— Спадар Алесь! Вас не было відаць некалькі месяцаў, і вось напачатку траўня вы вярнуліся на Беларусь. Хадзілі чуткі, што вы з'ехалі за мяжу вучыцца. Калі так, то – дзе, чаму і дзеля чаго?***

— Сапраўды, мне ўдалося падвысіць сваю кваліфікацыю, найперш — як палітыка, у Еўрапейскім цэнтры імя Дж.Маршала па вывучэнні бяспекі. Гэтае навучанне праходзіла за тры месяцы. Навучальная праграма была вельмі інтэнсіўнай і шчыльнай, даволі рознабаковай. Але асноўныя пытанні, якія разглядаліся падчас гэтага навучання, датычыліся ўнутрыдзяржаўнай сістэмы нацыянальнай бяспекі, а таксама міжнароднай сістэмы нацыянальнай бяспекі — такіх структураў, як NATO, Еўрапейскі Саюз, які зараз таксама пачынае набываць функцыі больш шырокія, чым толькі эканамічны і палітычны саюз. Да Еўрасаюза пераходзяць таксама некаторыя вайсковыя функцыі. Прынамсі, ён хоча ўзяць іх на сябе, і зараз ужо распрацаваная праграма на бліжэйшыя два гады па стварэнні агульнаеўрапейскага вайсковага корпуса хуткага рэагавання. Корпус будзе складацца ў колькасці да 60 тысяч чалавек з тэрмінам дзеяння да года. Гэта значыць, што Еўрасаюз ужо пачынае выступаць у нейкай ступені як вайсковы саюз. Узаемадачыненні краінаў у Паўночна-Атлантычным альянсе, а таксама – гэтых краінаў з тымі краінамі, якія імкнуцца ўступіць у NATO, і з дзяржавамі СНД, якія таксама маюць кожная сваю палітыку, і было прысвечанае навучанне.

Трэба сказаць, што Еўрапейскі цэнтр імя Маршала лічыцца адной з найбольш аўтарытэтных установаў такога накірунку ў свеце, а курс, які мы праходзілі, быў прызначаны для кіраўнічых асобаў дзяржавы. На лекцыях па гэтай праграме прысутнічалі прадстаўнікі 27 краінаў. Яны прадстаўлялі генеральныя штабы мінабароны, камітэты нацыянальнай бяспекі, міністэрствы замежных справаў сваіх краінаў...

***— Гэта азначае, што з усіх іншых краінаў прыязджалі афіцыйныя асобы, а не апазіцыя?***

— Так. Беларусь была адзінай краінай, якая была рэпрэзентаваная прадстаўнікамі апазіцыйных сілаў. Гэта звязанае перш за ўсё з тым, што Цэнтр фінансуецца напрамую Кангрэсам ЗША, а таксама ўрадам Нямеччыны. Гэта сумесны цэнтр, прызначаны якраз для таго, каб тыя краіны, якія зараз набліжаюцца да дэмакратыі, мелі магчымасць навучаць свае вышэйшыя кіраўнічыя эліты, паказваць ім тыя міжнародныя структуры, тыя тэндэнцыі і накірункі глабальнага развіцця, якія складаюцца зараз у свеце. Каб гэтыя кадры былі і маральна, і псіхалагічна, і прафесійна гатовыя да як мага хутчэйшых карысных пераўтварэнняў у сваіх краінах.

***— Што вы лічыце для сябе найбольш карысным з таго, што даведаліся за гэтыя тры месяцы?***

— Узровень лекцыяў, якія нам чыталі, быў вельмі высокі. Перад намі выступалі і галоўнакамандуючыя асобнымі буйнымі злучэннямі NATO, і найвышэйшыя асобы міністэрстваў абароны ЗША і Германіі, іншых краінаў, якія ўваходзяць у NATO. Лекцыі чыталі прафесары з амерыканскіх, нямецкіх, аўстрыйскіх ды іншых універсітэтаў. Адна з тэмаў, якімі я асабліва грунтоўна займаўся, – гэта праблемы развіцця малых дзяржаваў у міжнароднай супольнасці.

***— Гаворка ішла пра постсавецкія дзяржавы?***

— Не. Мы даволі падрабязна вывучалі тэндэнцыі развіцця, выпрацоўкі стратэгіі і тактыкі пабудовы нацыянальнай бяспекі для малых дзяржаваў ва ўсім свеце. Як бы там ні было, але тэндэнцыі развіцця гэтых дзяржаваў — хоць у Лацінскай Амерыцы, хоць у Цэнтральнай Еўропе, хоць у Азіі – у нечым падобныя. Бо нацыянальная бяспека, нацыянальная абарона будуецца, грунтуючыся на некалькіх асноўных прынцыпах. Магу іх зараз пералічыць. Гэта, папершае, моц нацыянальнай эканомікі. Па-другое, гэта тыя людскія рэсурсы, якімі валодае краіна. І, па-трэцяе, гэта той узровень патрыятызму, які прысутнічае ў людзей гэтай краіны: у якой ступені яны гатовыя ахвяравацца дзеля таго, каб бараніць інтарэсы сваёй краіны? Гэта асноўныя «кіты», на якіх трымаецца нацыянальная бяспека. Я вельмі падрабязна вывучаў тэндэнцыі развіцця нацыянальнай бяспекі ў малых краінах таму, што Беларусь адносіцца менавіта да малых краінаў. Таксама закранулася і праблема ўзаемадачыненняў такіх малых краінаў з сярэднімі і вялікімі краінамі, якія існуюць у свеце. Гэта тыя рэаліі, тая рэчаіснасць, з якой мы мусім лічыцца, калі бачым Беларусь у развіцці ў перспектыве.

***— Распавядзіце, калі ласка, калі быў створаны Еўрапейскі цэнтр бяспекі імя Маршала, дзе ён знаходзіцца?***

— Ён знаходзіцца ў Гарміш Партэнкірхене, невялікім нямецкім гарадку пад Мюнхенам. Цэнтр фінансуецца амерыканскім Кангрэсам ды нямецкім урадам. І ўзровень выкладання, і аўтарытэт гэтага цэнтра ў свеце вельмі высокія. Ён працуе з пачатку 90-х гадоў, калі пачаліся карэнныя змены ў структуры Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Тады з'явілася неабходнасць даць новыя веды для кіраўнічых элітаў краінаў гэтага рэгіёна. Гэта сумесны цэнтр, прызначаны якраз для таго, каб тыя краіны, якія зараз набліжаюцца да дэмакратыі, мелі магчымасць навучаць свае вышэйшыя кіраўнічыя эліты, паказваць ім тыя міжнародныя структуры, тыя тэндэнцыі і накірункі глабальнага развіцця, якія складаюцца зараз у свеце. Каб гэтыя кадры былі і маральна, і псіхалагічна, і прафесійна гатовыя да як мага хутчэйшых якасных пераўтварэнняў у сваіх краінах

***— А ці былі сярод кіраўнікоў, якія падвышалі ў Еўропе сваю кваліфікацыю, прадстаўнікі Расіі?***

— Так. Гэта былі прадстаўнікі Генеральнага штаба Расіі, міністэрства надзвычайных сітуацыяў, а таксама дыпламатычнай акадэміі. Як вайскоўцы, так і цывільныя.

***— Як вядома, нашыя ўлады не раз абвінавачвалі апазіцыю і ў тым, што яна «прадалася Захаду», і ў нейкіх трэніроўках яе лідэраў на заходніх вайсковых базах. Ці не падаецца вам, што ваш расповяд пра гэтую паездку дасць рэжыму падставы для новых пераследаў, а заадно пальe ваду на млын афіцыйнай прапаганды?***

— Мне здаецца, мы павінны менш зважаць на дрымучы досвед у палітыцы нашых недалёкіх апанентаў, выхаваных на рыторыцы савецкіх палітрукоў, а ўпэўнена глядзець наперад. Сягоння змены ў свеце адбываюцца так хутка, што жыць уяўленнямі 70-х ці 80-х гадоў мінулага стагоддзя – гэта проста катастрафічна для Беларусі. І калі мы не будзем адсочваць тыя тэндэнцыі развіцця нацыянальнай бяспекі, якія назіраюцца зараз у свеце, і не прымаць адпаведныя захады, гэта можа прывесці да таго, што Беларусь страціць усялякія перспектывы для развіцця кожнага асобнага чалавека, які жыве ў ёй. Мы павінны разумець, што існуе ўзаемасувязь паміж разумнай палітыкай нацыянальнай бяспекі ў краіне і дабрабытам кожнага чалавека, які жыве ў ёй. Бо не дарма ў свой час было сказана Напалеонам: дзяржава, якая не хоча карміць сваё войска, будзе вымушана карміць чужое.

Мы наведвалі і вывучалі дзейнасць асобных вайсковых частак нямецкага Бундэсвера, у прыватнасці, былі ў школе падрыхтоўкі дэсантнікаў. Наведалі школу NATO, якая знаходзіцца ў Нямеччыне. Апроч таго, у нас былі цікавыя паездкі: наведванне Пентагона ў Нью-Йорку, міністэрства абароны Нямеччыны, а таксама штаб-кватэры NATO ў Брусэлі. Трэба сказаць, што тэндэнцыі развіцця найбольш моцнай вайскова-палітычнай структуры, якая зараз існуе ў свеце, надзвычай цікавыя, і вельмі важна іх разумець і адчуваць. Таму што планаванне нацыянальнай бяспекі еўрапейскай краіны без уліку гэтых тэндэнцыяў проста не мае перспектывы.

***— Згодна з вашым расповядам, вы сапраўды набылі шмат карысных ведаў. Але ці бачыце вы шляхі іх рэальнага ўжытку ў нашай сітуацыі, тут, на Беларусі?***

— Так, я бачу гэтыя шляхі. Я з'яўляюся намеснікам старшыні БНФ «Адраджэньне» пад кіраўніцтвам Вінцука Вячоркі. І, безумоўна, усе свае веды, набытыя ў пытаннях развіцця нацыянальнай бяспекі, міжнародных зносінаў, усе тыя сувязі і кантакты, якія я набыў падчас гэтай паездкі, я буду актыўна выкарыстоўваць у сваёй бягучай працы менавіта на гэтай пасадзе. Я думаю, што мы не павінны жыць толькі адным днём, мы не павінны думаць, што рэжым, які зараз балюе на Беларусі, вечны. Мы павінны мець выразнае ўяўленне, якім шляхам Беларусь пойдзе далей, пасля ўсталявання дэмакратычнага ладу ў краіне. У нас будзе не так шмат часу на развагі, на роздум, мы павінны будзем адразу дзейнічаць і мець ясныя праграмы дзеяння — як у эканоміцы, як у сацыяльных і нацыянальных пытаннях, гэтак жа і ў пытаннях абароны і нацыянальнай бяспекі. ■

**Гутарыла**
**Таццяна СНІТКО**



● **А.Бяляцкі** сустракаецца з чатырохзорачным генералам **Джэймзам Л. Джоунзам**, камандуючым войскамі марской пяхоты ЗША

АСПЕКТЫ

## Шведскія сацыял-дэмакраты сябруюць з Народнай Грамадой

Юрый ПАЦЁМКІН

У рэспубліцы па запрашэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) знаходзіліся шведскія палітыкі. На сустрэчы з журналістамі сакратар правячай Сацыял-дэмакратычнай партыі Швецыі Урбан Алін заявіў, што шведскія сацыял-дэмакраты будуць і далей працягваць барацьбу за свабодную і дэмакратычную Беларусь. Падчас свайго візіту сацыял-дэмакраты наведалі абласныя цэнтры краіны, а таксама гарады Пінск і Салігорск. На сустрэчах з рэгіянальнымі лідэрамі БСДП (НГ) вывучаліся пытанні двухбаковага міжрэгіянальнага супрацоўніцтва і аказання дапамогі беларускім дэмакратычным сілам. Формы гэтай падтрымкі, паводле слоў сп. Аліна, павінны ў будучым вызначыць самі беларускія апазіцыйныя палітыкі. ■

## Вандроўка ў камуністычнае мінулае

Марат ГАРАВЫ

На мінулым тыдні ў Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры завяршылася сустрэча маладых нямецкіх і беларускіх гісторыкаў — пераможцаў нацыянальных школьных конкурсаў (германскага «Пратэст» і беларускіх «Чалавек, час, помнік»). Падчас акцыі, якая з 13 траўня праводзілася па тэме «Беларусь — белая пляма ў цэнтры Еўропы», юнакі і дзяўчаты азнаёміліся з конкурснымі матэрыяламі, сустрэліся з вучнямі школ і студэнтамі ВНУ, журналістамі і маладымі палітыкамі, вучонымі-радыеэколагамі і нямецкімі валанцёрамі, якія працуюць у Беларусі, наведалі Хатынь, Курапаты.

Маладыя нямецкія гісторыкі лічаць, што, як гэта ні дзіўна, Беларусь усё яшчэ жыве ў камуністычным мінулым, у вачах людзей і іхняй манеры трымацца праяўляецца залежнасць ад начальства і падначаленасць жанчын мужчынам; маладыя жанчыны надаюць занадта вялікае значэнне сваёй вопратцы, міліцыянеры прыцягваюць увагу відавочнай падазронасцю; у краіне нямала алкаголікаў. Маладыя немцы далі розныя ацэнкі ўбачанаму ў Хатыні і Курапатах. Мемарыял у Хатыні ўзведзены, на думку нямецкіх удзельнікаў сустрэчы, у таталітарным стылі, выкананы казённа і холадна, а Курапаты, дзе толькі плануецца стварэнне памятнага комплекса, нават у сваім цяперашнім выглядзе дазваляе адчуць падзеі мінулага. ■

СТЫЛЬ ЖЫЦЦЯ

# Кава падаражэе

## Пакуль – толькі на сусветным рынку

Ірына СТАРЦАВА

Напрыканцы мінулага тыдня ў Лондане адбылася сустрэча міністраў сельскай гаспадаркі тых краінаў, што ўваходзяць у Асацыяцыю вытворцаў кавы.

Як сведчыць статыстыка, сусветныя цэны на каву цяпер знаходзяцца на самым нізкім узроўні за апошнія сем гадоў. Адзін кілаграм кавы найлепшага гатунку «арабіка» цяпер каштуе ў сярэднім 1,5 долара ЗША. Што ж датычыць другога па папулярнасці гатунку кавы – «рабуста», то на таргах Лонданскай біржы ў мінулы чацвер кошт аднаго кілаграма знізіўся да ўзроўню 0,916 долара – усяго за некалькі дзён падзенне каціровак склала 2,5%.

У пятніцу прадстаўнікі 33 краінаў – вытворцаў кавы дамовіліся на 20% скараціць пастаўкі на рынак і прытрымлівацца квотаў да таго часу, пакуль цэны на «арабіку» не падвысяцца да 2,10 долараа за кілаграм. Пасля гэтага вытворцы маюць намер пастуова павялічваць пастаўкі, а тым часам цана, паводле іхніх разлікаў, яшчэ крыху ўзрасце і сягне 2,30 долара за кілаграм «арабікі».

Ініцыятыва ўтварэння картэля зыходзіла ад дзвюх краінаў, найбуйнейшых вытворцаў кавы — Бразіліі і Калумбіі. Міністр сельскай гаспадаркі Бразіліі заявіў, што гэтае пагадненне ахоплівае 85% сусветнай вытворчасці кавы.

Напярэдадні міністэрскіх перамоваў такія краіны, як В'етнам і Інданезія, заявілі, што не жадаюць скарачаць аб'ёмы кававых паставак (абедзве яны не ўваходзяць у Асацыяцыю вытворцаў кавы). Тым не менш, як з цікавасцю адзначаюць эксперты, у рэшце рэшт, яны таксама паддаліся агульнай эйфарыі. В'етнам і Мексіка, трэці і чацвёрты па велічыні пастаўшчыкі кавы на сусветны рынак, пагадзіліся на ўвядзенне квотаў.

Такім чынам, кававы картэль утвораны, і ў бліжэйшы час цэны на каву непазбежна ўзрастуць. Тым не менш, на думку экспертаў, рынак будзе аказваць актыўны супраціў новаму картэлю, і ў доўгатэрміновай перспектыве ў «кававых» краінаў няма шанцаў устанавіць неабходныя ім цэны. На думку аналітыкаў, рана ці позна картэлю давядзецца давесці пастаўкі да сённяшняга ўзроўню, і цэны зноў вернуцца на сваё месца. ■

# «Святая Русь»: пары і пасіянары

Віталь САКОВІЧ

**Калі расійскія і беларускія вышэйшыя асобы давodзяць пра ўзаемную карысць «саюза двух дзяржаваў», дык неабавязаныя да дыпламатычных эўфемізмаў шэраговыя «інтэгратары» шчыра і шчасліва ўхваляюць часы Расійскай імперыі і месца, якое «многие столетия» займала там Беларусь. Пасля ратыфікацыі саюзнай дамовы кампанія ўспамінаў пра былое шчасце надта ўзмацнілася, набыўшы характар планамернай ідэалагічнай апрацоўкі свядомасці нашага насельніцтва.**

Палітычна любая імперыя заўжды імкнецца растварыць асобны этнас сярод масы іншых ці прывесці яго ў стан падобнасці галоўнаму, які ўтварае касцяк імперыі. Прыкладам, плебеямі ў старажытным Рыме першапачаткова называлі нелацінаў, людзей іншых плямёнаў, якіх лаціны здолелі падпарадкаваць. Потым назва перайшла на ніжэйшыя слаі грамадства і ў гэтым абразлівым значэнні ўжываецца па сёння. У бягучы момант «саюзнай» гісторыі мы – плебеі ў пачатковым значэнні гэтага слова (нерускія). Што будзе далей – пакажа час, магчыма, што нам прыйдзецца зноўку засвойваць для сябе і апошняе значэнне, як тое было ў дарэвалюцыйны і ў савецкі этапы нашай гісторыі («от Москвы до самых до окраин»).

На ўзроўні ідэалагічных ратнікаў «уз'яднання» ўжо выкрышталізавалася тэндэнцыя пазбягаць як назвы Беларусь, так і нацыянальнага акрэслення нашага народа «беларусамі». Блізкі прыклад – выхад у свет першага нумара часопіса «Святая Русь», як пазначана на вокладцы «Журнала для тех, кто помнит свое Отечество». Выдаўцом выступае беларускае «частное дочернее унитарное предприятие «Редакция журнала «Святая Русь». Гэта дарагога кошту ў адносінах паліграфіі часопіс; нават няпроста ўявіць беларускае «прадпрыемства», якое мае магчымасці выпускаць такі багаты «прадукт» накладам 3.000 асобнікаў. Ніводзін з дзяржаўных часопісаў РБ не ідзе нават у блізкае параўнанне з гэтым выданнем. А з недзяржаўных хіба толькі імпартны *«Playboy»* (па якасці і колькасці слайдаў). «Святая Русь» — часопіс праваслаўна-палітычны. «Само название, — пішуць выдаўцы ў рэдакцыйнай прадмове, — определяет во многом направление, духовную и идеологическую ориентацию журнала... Сегодня время труда самоотверженного, без громких имен, время «неизвестного солдата», когда нужно много отдать и мало получить».

Сярод «невядомых салдатаў» першага нумара звяртае ўвагу «тэарэтычны» артыкул «Окаянное время» доктара філалагічных навук з Гомельскага універсітэта А.Рагалёва. Пасля кнігі Івана Буніна «Дни окаянные» гэта, здаецца, першае выкарыстанне такога жорсткага акрэслення для постсавецкай эпохі. А.Рагалёў ставіць знак роўнасці паміж 1917 і 1991 гадамі (лютаўская рэвалюцыя – віскулёўскія дакументы). Падрабязна аналізаваць гэты твор д-ра філалогіі не мае сэнсу. Аўтар пабудаваў яго на падмурку шырокіх кампіляцыяў з І.Ільіна, А.Зіноўева і Л.Гумілёва, а вастрыё крытычнай патэтыкі скіраваў на Ельцына, Захад, расійскіх і айчынных дэмакратаў («Это они проели, пропили, отдали на поругание тысячелетнюю Святую Русь... А народ безмолствовал. Молчали русские, молчали восточные славяне. У них уже не было сил».) Пасазальная ў гэтым «эсэ» хіба толькі тэндэнцыя азначэнняў. Наша краіна, па А.Рагалёву, — «регион, определённая часть суперэтнического (цивилизационного) пространства... Регионом восточнославянско-русского пространства является, например, его западная часть — Белая Русь». Трацiна артыкула прысвечаная доказам гістарычнай стомленасці народа, «прежде всего русского, восточнославянского» (тлумачэння, што такое «восточнославянский народ», аўтар не падае). Эксплуатуючы тэорыю Гумілёва, аўтар старанна даводзіць, што этнічная энергія нашага народа загасае, для яго наступіў «этап оскудения, растраты данных Свыше запасов биохимической энергии». Уся гэтая навукападобная схаластыка наўмысна не ўлічвае сённяшні стан свету, немагчымасць яго перадзелу і новых заваёваў Амерыкі з выніщэннем карэннага насельніцтва ці немагчымасць новага пасіянарыя накшталт Чынгізхана з мангольскіх стэпаў.



Запасы «біяхімічнай энергіі» ў цяперашняга канкрэтнага пакалення абсалютна не маюць значэння пры ўмове верхавенства Закона. Калі дзейнічае Закон, дык народ, этнас не залежыць ад з'яўлення пасіянарыя і яго волі. Такі парадак, дзякаваць Богу, усталяваўся ва ўсім цывілізаваным свеце, каб пазбегнуць эксперыментаў з боку асобы, якая раптам пачынае адчуваць, што народжаная змяніць ход гісторыі. Але гэтак на Захадзе, а мы не «западоиды», мы без кіроўцы не жывем. «Сквозь мрак апатии и животных инстинктов, — вяртаецца да гістарычнага аптымізму Рагалёў, — непременно пробьются люди, которые поставят во главу угла не эгоистический интерес, а судьбу страны, своего этноса». В «святой Руси» «последние события» здаецца аўтару выратавальна сімпатычнымі. «Мы имеем в виду, — тлумачыць аўтар, — всенародную поддержку президента Лукашенко». І цякуць салодкія, як мёд, словы: «Выдвинутый из гущи народной, в чем, кстати, и заключается настоящая демократичность белорусского государства, президент по призванию воплощает истинно-природные качества и историко-культурные тяготения, веру и совесть славянина... Он объективно символизирует, с одной стороны, былое величие и гордость русско-славянского государства, с другой — грядущее возрождение и подъем исторической Руси». Народ, так мовіць, сабраўся з сіламі і нарадзіў пасіянарыя, які «сумеет преодолеть поведенческий цинизм пассивного большинства» і павядзе да перамогі. Пра Пуціна як свежаабранага прэзідэнта Расіі А.Рагалёў не ўзгадвае нагогул, нібыта па залах Крамля на подыум з задрапіраваным тронам Рурыкавічаў і Раманавых прайшоў на вачах усяго свету не ён, а нехта іншы.

Наўрад ці «невядомы салдат» такі неразумны, каб ва ўпор не прыкмячаць расійскага прэзідэнта, хутчэй за ўсё нумар «Святой Руси» не паспяваў за падзеямі, і таму публіцыстыка, скіраваная на ўхваленне асобы пасіянарыя двухсэнсава не супала з рэаліямі жыцця. Зразумела, што месца «грядущего возрождения» зараз узначаліць Пуцін. Але, па сутнасці, гэта нічога не мяняе, бо «Святая Русь» — гэта такая прастора, якая супрацьстаіць Захаду, заходнім людзям (па Рагалёву, «западоидам»). В «окаянное время» трэба мець спадзею, яна аказваецца ўсё тая ж самая, якая сілкавала «святарусистов» стагоддзе таму. «Может, действительно правы мыслители прошлого, утверждавшие, что «за Россией стоит некий Божественный исторический замысел» и что именно сегодня на Руси решается будущее всего мира?...»

Калі б часопіс выходзіў у Маскве, усе падобныя «утверждения мыслителей прошлого» выглядалі б як літаратурная спадчына. Але паколькі «журнал для тех, кто помнит свое Отечество» зарэгістраваны нашым Дзяржкамдрукам, дык з гэтае прычыны замена ўкраінцаў і беларусаў на «восточных славян» адлюстроўвае апеку нашых дзяржаўных органаў такім «историческим замыслом». Зямны варыянт ідэальнай «Святой Руси» – адроджаная расійская імперыя з жаданнем вярнуць усё страчанае ў «окаянное время». ■

ПУБЛІЧНАЯ ДУМКА

# Кожныя тры з чатырох думаюць інакш, чым улады

Сёння дахі дамоў не маюць фанернага аздаблення з надпісам «Народ і ўлады адзіныя». Магчыма таму, што ўлады адчуваюць, які смех выклікалі б такія дэвізы на фоне нашай рэчаіснасці. Адная на ўзроўні індывідуальнага кантакта вышэйшых асобаў з электаратам па тэлевізары спасылкі на «ўсенародную падтрымку» дзяржаўнага курсу — галоўны козыр. Асабліва, калі гутарка вядзецца пра «саюз славянскіх дзяржаваў». Наколькі ўлада не лічыцца з шырокай публічнай думкай, паказвае сацыялагічнае апытанне, красавіцкія вынікі якога мы працягваем друкаваць.

Датычнае «Саюза Расіі і Беларусі» пытанне было сфармуляванае лаяльна ў адносінах да пагляду кожнага грамадзяніна: «Найлепшы варыянт узаемаадносінаў Беларусі і Расіі». Як адлюстроўвае дыяграма, з 1.500 апытаных рэспандэнтаў за агульную (федэратыўную, накшталт былога СССР) дзяржаву выказаліся толькі 27,3% пераканаых прыхільнікаў А.Лукашэнкі і 18% ягоных праціўнікаў. Да саюза двух незалежных дзяржаваў (канфедэрацыя) схіляюцца 16,8% прыхільнікаў першага прэзідэнта і 25,25% яго пераканаых праціўнікаў. Жаданне не меняць незалежны статус нашай дзяржавы і працягваць стасункі з Расіяй у якасці суверэннай краіны падтрымоўваюць 42,1% праціўнікаў А.Лукашэнкі і нават 7,9% яго прыхільнікаў. Па Мінску гэтыя лічбы складаюць: для прыхільнікаў – 1,5%, для праціўнікаў – 58,6%. Кожны варыянт адказу выявіў палову рэспандэнтаў, якія вагаюцца, не ведаючы, што для іх будзе лепш, што горш. У цэлым наш народ не супраць самых добрых адносінаў з Расіяй, але не хоча, каб адбылася страта незалежнасці. Таму вельмі важнае значэнне мае дакладная фармулёўка зместу аб'яднання. Таму калі б сёння праходзіў рэферэндум з пытаннем пра аб'яднанне ва ўмовах федэрацыі (страта незалежнасці), ён не атрымаў бы падтрымкі. Менавіта з гэтай прычыны ўлады яго і пазбягаюць. «Саюзнае» пытанне вырашаецца ў палатах, келейна. Выбары ў саюзны парламент жадаюць прызначыць на першы квартал наступнага года. У бюджэт закладаюцца патрэбныя для выбарчай кампаніі грошы. На фоне страты ўраджаю гэтага года ад маразоў, заганаў сістэмы аховы здароўя, чарнобыльскай бяды пасќораная «рэалізацыя» задумы ўладаў, якую падтрымоўвае толькі адзін чалавек з чатырох, выглядае шчырым ігнараваннем галоўных патрэбаў нацыі. ■







НАЗІРАЛЬНІК

# Жизнь прекрасна!

Константин СКУРАТОВИЧ

**Знаю совершенно точно, что в последнее время у многих хороших людей опустились руки. Уж очень не соответствуют жизненные реалии затрачиваемым усилиям. Однако не хлебом единым жив человек. В этом убеждает номер «Советской Белоруссии» за 15 мая.**

Накануне выхода газеты в Минск на заседание сессии Парламентского собрания Союза Беларуси и России прибыла группа «охотнорядцев» во главе со спикером Госдумы Г.Н. Селезневым.

Понятно, что центральное место в номере отводится Александру Лукашенко, начиная с его фотообраза умудренного и по-отечески озабоченного народного трибуна на первой полосе, и изложению его же доклада перед высоким собранием. Впрочем, герой в особой рекламе не нуждается. Как не нужна она, допустим, автомобилям «мерседес» или авторучкам «паркер». Однако понятно, что джентльмен, который ездит на «мерсе», чеки подписывает скорее всего «паркером». Таков, очевидно, ход рассуждений редактора, который на первой полосе поместил еще два меньших по размеру фотопортрета, но фигур очень высокого калибра. Никак не меньше, чем у Лукашенко. Для этого был выбран Папа Римский (по случаю 80-летия) и президент Казахстана Нурсултан Назарбаев (по случаю предстоящего визита в Минск). Очень неплохая компания, в которой наш выглядит, однако, как первый среди равных...Что касается доклада, то по форме и содержанию он достаточно скучен. Его прочла бы кучка любителей или обязанных к тому профессионалов, если бы не домашняя заготовка «СБ». В статье «Деньги для крестьян», которая также начинается на первой полосе, автор Геннадий Закржевский пишет: «Те, кто кормит горожан, бедствуют. Нет, это вовсе не означает, что им совсем ничего не платят за тяжкий крестьянский труд. Практически повсеместно каждому работающему раз в месяц выдают деньги на хлеб, соль, сахар. На белый хлеб хватает не каждому». После такой «запевки» каждому читателю захочется узнать, как же ситуацию оценивает «его президент». И узнает, что оценивает очень хорошо. Дословно: «Белорусы в целом достаточно сносно обеспечивают себя продуктами питания собственного производства. Согласно тому же источнику (ООН. — **К. С.**), ежедневная норма потребления калорий на душу населения у нас выше, чем в Канаде, Японии, Финляндии, Эстонии и всех странах СНГ».

Не знаю как кому, а мне стало весело. Жить прекрасно в нашей, именно в нашей стране. Столько хлеба, чтобы из его излишков можно сушить калорийные сухари и посылать их в Японию. ■

# Традыцыйныя па змесце, нецікавыя па форме

## На дэманстрацыі апазіцыі многія не прыходзяць, бо не жадаюць сумаваць

Кірэй МАНУЙЛАЎ

**Як звычайна, завяршылася чарговая, датаваная ўжо годам 2000-ым, вулічна-палітычная «Мінская вясна» – збольшага анічым. 15.03., 25.03., 26.04., 14.05. – «усім дзякуй, усе вольныя». Сезонныя, так бы мовіць, рэвалюцыянеры адпраўляюцца на летнія вакацыі. На жаль, вонкава ўсё выглядае менавіта такім чынам. Беларуская апазіцыя застаецца з яшчэ больш усталяваным комплексам непаўнавартасці: панацэйны быццам бы 100 тысяч не збіраюцца. Хоць, паводле сацыялагічных даследаванняў, у разнастайных «маршах свабоды» гатовыя ўдзельнічаць да 500 тыс. жыхароў сталіцы.**

Прычынаў такога недарэчнага невыкарыстання ўласнага патэнцыйнага рэсурсу, у тым ліку значных і аб'ектыўных, зсітуацыяваных лукашэнкаўскім рэжымам, як, напрыклад, запалохванне рэпрэсіямі, некалькі. Але, прынамсі, адну з іх, у чым сама і вінаватая, беларуская апазіцыя (ад партыйных функцыянераў да шэраговых дэманстрантаў) скасаваць можна і павінна. Гэта – безгустоўнасць, неэфектнасць, а ў найпрасцейшай залежнасці ад яе і неэфектыўнасць апазіцыйных шэсцяў і мітынгаў. Унутраная арганізацыя і антуражнае аздабленне вулічных акцыяў пратэсту знаходзяцца проста на прымітыўным узроўні.

Быццам бы і не існуе таго ж польскага досведу «аксамітнай рэвалюцыі». Дастаткова згадаць толькі падзеі мастацка-грамадскага руху «Апельсінавая альтэрнатыва» ў 1987-1989 гадах. Тады, ва ўмовах, калі любая грамадская ініцыятыва, не зацверджаная ўладамі, ператваралася ў абсалютна нелегальную, палякі прыдумалі новыя, незвычайныя і цікавыя формы вулічных акцыяў: незалежныя адзначэнні дзяржаўных святаў і знешне тэатралізаваныя шоу. Памятаецца, напрыклад, як студэнты мылі шампунем бруканку, дзе напярэдадні прайшоўся Мілошавіч. Падобныя масавыя перформансы распачаліся ў Сербіі ўжо на другі дзень вулічных пратэстаў. Без гэтага наўрад ці на працягу некалькіх месяцаў на вуліцах тамтэйшых гарадоў збіраліся б дзесяткі і сотні, а ў Бялградзе да паўмільёна чалавек.



Фота Ул. ШЛАПАКА

Цяпер аднавіце ў памяці тагачасныя тэлекарцінкі і параўнайце з тым, як праходзяць апазіцыйныя акцыі ў Мінску. Раздаваць бутафорскія долары альбо публічна практыкавацца ў красамоўных лаянках Лукашэнкі – не дужа арыгінальна. Прычым з году ў год, ад акцыі да акцыі адбываецца адно і тое ж. Без імправізацыяў, без вынаходніцтваў. Хоць апазіцыя ладзіць штогод у сярэднім да дзесятка масавых вулічных акцыяў, і, здаецца, што часу, каб штосьці цікавае прыдумаць, багата, але, відаць, усе сродкі, імпэт ды фантазія растаюць у анонсавых налепках, атрыбутыўных значках, прыкольных, як кажуць, майках з надпісамі кшталту «я ведаю, хто самы галоўны дурань на Беларусі». На стварэнне чагосьці больш-менш цікавага сілаў не застаецца. Да прыкладу, мастацкім аздабленнем калонаў з вялікай-вялікай нацяжкай можна назваць толькі сцягі і транспаранты. Але гэта, як здаецца, проста натуральна, само сабой, што сімволіка і лозунгаваць павінны наяўнічаць падчас вулічных акцыяў. Песні гімнавай, адзінай і вядомай усім, таксама няма. А значыць, няма адмысловай энергетыкі, няма пачування сябе разам з асэтатнімі адзіным цэлым. Так, шпацыруе сабе млява натоўп і шпацыруе. Ад плошчы Якуба Коласа да скверыка, дзе сабакаў выгульваюць, каб паслухаць у ...наццаты раз пералічванні з пустога ў парожняе. Многія да месца правядзення мітынгу з гэтай прычыны нават не даходзяць, задавольваюцца выключна шэсцем. Бывае, праўда, што хто-небудзь якое чучала прыцягне, зрэдку рок-канцэрт арганізуюць. Паказальнай па правальнасці можна лічыць апошнюю акцыю 14 траўня. Таму не дзіва, што самымі рэзананснымі і запамінальнымі становяцца тыя акцыі, дзе адбываюцца сутычкі з міліцыяй.

Што рабіць? Па-першае, апазіцыі неабходныя творчыя людзі, якія б прафесійна займаліся дызайнам і рэжысурай правядзення відовішчных масавых вулічных акцыяў. Па-другое, апазіцыі варта адмовіцца ад выключна датавай вулічнай дэмакратыі. Існаванне папярэдняга раскладу (Дзень Канстытуцыі, потым Дзень Волі, далей «Чарнобыльскі Шлях» і г.д.) апазіцыйных мерапрыемстваў глядзіцца недарэчна. Дзе тут да стыхійнага выхаду на плошчы, дзе тут да відовішчаў і разняволенасці, калі апазіцыйны электарат проста прывучылі змагацца за волю ў асобныя дні года. Таму палітычныя перформансы ладзяцца вельмі рэдка і да таго ў адзіночку.

Для выключанай з рэальнага палітычнага працэсу айчыннай апазіцыі вулічныя акцыі пратэсту ў дадзеных умовах з'яўляюцца, у прынцыпе, калі не адзінай, то, прынамсі, самай важнай формай тымчасовага палітычнага супрацьстаяння. Але, здаецца, апазіцыйныя партыі разглядаюць вулічныя акцыі пратэсту ў якасці сімвалічнага суправаджэння сваёй, так бы мовіць, нявулічнай палітычнай дзейнасці. ■

нават зусім не палітычныя забаўкі. Праводзіліся гэтыя акцыі ў самым цэнтры горада Вроцлава. На Дзень Дзіцяці ў 1988-ым міліцыя пільнавала моладзь, пераапранутую ў гномаў, а на 70-ую гадавіну кастрычніцкай рэвалюцыі – ва ўсё чырвонае.

Зусім свежы прыклад – вулічныя маніфестацыі 1996-1997 гадоў у прыкладна роўным па колькасці насельніцтва Мінску Бялградзе ў адказ на фальсіфікацыю выбараў прэзідэнтам Мілошавічам. Амаль штодзённыя шматгадзінныя шэсці ператвараліся ў дзіўныя

### УДАКЛАДНЕННЕ

Пасля апублікавання ў мінулым нумары газеты матэрыялу «Ці будзе кінашэдэўр?» у рэдакцыю затэлефанаваў намеснік міністра культуры спадар Цвяткоў і папрасіў унесці некаторыя папраўкі.

Па-першае, выпраўляем недарэчнасць: пісьменнік і аўтар сцэнару фільма «Момант ісціны» У.Багамолаў атрымаў ад беларускага міністэрства культуры ў выглядзе ганарару не 30 долараў, як было напісана, а 30 тысяч долараў (у амерыканскай валюце). Па-другое, Ю.Цвяткоў давёў, што ў 1998-1999 гадах нацыянальная кінастудыя «Беларусьфільм» усё ж зняла некалькі стужак. Летась былі знятыя сумесна з Расіяй «Рэйнджэр атамнай зоны» беларускага рэжысёра В.Нікіфарава і «Губернатар» расіяніна Я.Матвеева, з'явіўся таксама кінаальманах маладых беларускіх рэжысёраў «Тры О». А ў 1998 годзе на «Беларусьфільме» былі знятыя «Справы Лахоўскага» Б.Берзнера, «Апёк» Б.Шадурскага, «Тры жанчыны і мужчына» В.Дудзіна, дзіцячыя фільмы «Падзенне дагары» А.Трафіменкі і «Маленькі баец» М.Касымавай. У супрацоўніцтве з расійскім бокам была знятая стужка «Кантракт са смерцю» Д.Астрахана. ■

**БЕЛАРУСКІ КАЛЕГІЮМ ЗАПРАШАЕ НА ПУБЛІЧНЫЯ ЛЕКЦЫІ**

**23 траўня**
Мікалай Крукоўскі
«Клясычны ідэал і сучасны стан беларускага прагмадзтва»

**30 траўня**
Сяргей Леўшуноў
«Беларусь: сучасны стан і альтэрнатыўная стратэгія развіцця»

Лекцыі адбудуцца ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Я.Купалы (актавая заля) па адрасе:
**вул.В.Харужай, 16**
**Пачатак у 18:30**

# «Минская Весна» – опыт творческой солидарности

*«...– Мы будем ставить водевиль конспиративно!»*
***Виктор ШКЛОВСКИЙ***

Татьяна НОВИКОВА

С 18 по 20 мая в Минске прошел международный художественный фестиваль «Минская Весна». Он был подготовлен обществом *«Ru Teatrowi»* (Познань), инициативой «Культурный контакт» при содействии Беларускай Музычнай Альтэрнатывы, Ассоциации «Сучаснае мастацтва», «Дыяруш», при поддержке Польского Института в Минске и Института Гете. Публике были представлены авангардный театр (*«Academia Ruchu»*, Варшава, *«Cogitatur»*, Катовице, Польша, «Жест», Минск, Гродненский театр кукол), перформанс (Виктор Петров, Александр Родин, Беларусь, Мечислав Скалимовский, Лукаш Главацкий, Польша и другие), инсталяция (Мечислав Скалимовский), рок (*«Pidzama Porno»*, Познань), фолк и экспериментальная музыка (*«Gelee Royale»*, Берлин, *«Diffusion Ensemble»*, Гданьск-Дюссельдорф, «N.R.M.», «Уліс» «Плато», Минск). Не обошлось без участия властей, на этот раз они живо включились в хэппенинг в своем привычном амплуа.

В обозначение «международный художественный фестиваль» не укладывается



смысл «Минской Весны» как культурной акции и события в жизни города. Это не просто праздник авангарда, а первый опыт творческой солидарности.

В «Минскую Весну» включились авторы, художники, музыканты, работающие с живой, повседневной реальностью. Они превращают стереотипы, будничную канву, социальные барьеры в объект творческой манипуляции. Зритель торжествует вместе с автором, а закомплексованная действительность превращается в карнавал. Фестиваль осмысливается как художественная акция освобождения.

«Минская Весна» началась с документальных видеофильмов о легендах 80-х. *«The Wooster Group»* — фильм об известном во времена расцвета американской контркультуры авангардном театре, радикальном по отношению к социальным табу.

Фильм «Майер или революция гномов» представил минской публике «Апельсиновую альтернативу» из Вроцлава. Истории ее хэппенингов могли быть известны еще по журналу «Родник»: социалистическая Польша и праздник под названием «Международный день шпиона»... На излете 80-х Майер (Вольдемар Фридрих) устраивал во Вроцлаве альтернативные празднования 1 мая и 7 ноября. Молодые люди в форме матросов выходили на штурм Зимнего, ряженый Ленин выезжал на картонном броневике. Милиция забирала Ленина в участок, арестовывала людей, одетых в красное, а затем в желтое и оранжевое. Во времена дефицита туалетной бумаги люди из «Апельсиновой альтернативы» раздавали бесплатные рулоны на улицах города — их опять забирали в участок. Жители города смело участвовали в хэппенингах, на день милиции люди Майера выписывали им праздничные штрафы, а на международный женский день раздавали бесплатные «Тампаксы».

Другая яркая история — в фильме о варшавской «Академии Руху». И снова уличный театр, акции-хэппенинги для прохожих, посетителей курортных городков. Все они живо участвуют в происходящем. На альтернативное праздование «1 мая» в поселке люди украшают дома собственными портретами и лозунгами — своими излюбленными высказываниями «Почему нет?», «Иду в дальнейшем направлении»... Милиция снимает народные лозунги и транспаранты, предварительно записав их на видео.

На улице курортного города появляется памятник серому обывателю из папье-маше. Ярко одетые отдыхающие делают ее местной достопримечательностью, дарят ей сигареты и утренние газеты. Рядом с обывателем вырастает памятник труженице — она идет из магазина в стоптанных туфлях с тяжелыми сетками. Милиция требует убрать памятники с центральной площади — их переносят на соседнюю улицу. Милиция протестует — памятники помещают в городскую квартиру, и они «выглядывают» из окна.

80-е в Польше были «веселыми», в это время появилось много людей, практикующих новые, запрещенные тогда формы творчества — перформансы, инсталяции, хэппенинги. Серый социальный контекст становился прекрасным материалом для художественного осмысления.

У журналиста одной из минских газет возник вопрос, возможно ли перенести этот опыт на белорусскую реальность. Вопрос типичный и, наверное, смешной. Вообще же, я против таких переносов. Очень не хочется, чтобы культурные явления служили формой какого-либо протеста. Ужасно, если и наоборот, когда закомплексованные, ограниченные люди протестуют против естественного разнообразия художественных форм. Это как не воспринимать семь цветов радуги. Болезненно.

Но все-же по поводу переноса. Польский художник установил инсталяцию возле одного из минских театров, где проходил фестиваль. Это был памятник самому себе, выполненный из папье-маше и одетый в костюм. По мнению минских блюстителей нравов, автор должен бы осторожно обходиться с таким украшением внешности, как усы... «Эксперты от искусства» рассмотрели инсталяцию на предмет сходства с... Такового не нашли. Из предосторожности кто-то неизвестный пририсовал памятнику бороду.

Самыми живыми участниками «Минской Весны», если смотреть на нее как на хэппенинг, были официальные персоны. Перформанс на улице проводить нельзя, потому что на уличные шоу, массовые представления и акции нужны специальные разрешения. Но у перформансов — максимум с полсотни зрителей и длятся они не больше часа. Блюстители порядка сбились с ног, желая пресечь мероприятие, но не подоспели. Им удалось только забрать телекамеру у оператора БТ, потом ее, разумеется, вернули.

Министерству культуры задают вопрос «Можно ли провести пресс-конференцию в театре?» (Этот факт не нужно было согласовывать.) Ответ: «Не желательно, потому что помещение будет использовано не по назначению». Любопытно, а где желательно проводить пресс-конференцию, чтобы она отвечала предназначению помещения?

И все же, «Минская Весна» была разнообразна, кроме кафкианского сюрреализма, она представила и вещи не «на злобу дня». Были выступления авангардного театра и перформансы, экспериментальная музыка, любопытные сами по себе — «Елка У» театра «Жест», совместное выступление группы «Плато», *«Diffusion Ensemble»* и скрипача Клауса дер Гейгера, спектакль польского театра *«Cogitatur»*. ■

**КНІГАРНЯ**

# Жыццё Рагнеды адухаўляе літаратуру

Вячаслаў ГОРСКІ




**Бацькаўшчына. Зборнік гістарычнай літаратуры. Мн., «Юнацтва», 1999**

Здаецца, гэтая кніга — першая ў нас анталогія твораў, прысвечаных адной асобе, што надзвычай цікава ўжо само па сабе. З аднаго боку, том адлюстроўвае шырокае засваенне беларускай літаратурай гістарычнай прасторы Беларусі, з другога — навучае чытача вельмі неабходнаму кожнаму і ўсім разам плюралізму ва ўспрыняцці літаратуры як сферы вольнай творчасці, як арыгінальнай інтэрпрэтацыі старажытных падзеяў сённяшнім чалавекам. Яшчэ не так даўно з'яўленне хоць бы аднаго празаічнага ці буйнога (па памерах) паэтычнага твора, які асвятляў пэўную асобу старажытнасці ці мінулыя падзеі, успрымалася як вычарпальная акцыя. Не існавала магчымасці для параўнальных ацэнак, для чытацкай прыхільнасці адпаведна густу, характару, поглядам на жыццё.

Праўда, і асоба, вакол якой назапасілася багата прозы, драматычных твораў, паэмаў і вершаў, — вартая асаблівай цікавасці. Гэта – княжна полацкая Рагнеда. Менавіта ёй прысвечаны сёмы выпуск «Бацькаўшчыны». Зразумела, што яе эпоха, жыццё, што прыпала на час міжусобных трагедыяў, на час хрышчэння, патрабуе ўважлівага позірку і на яе сучаснікаў і родных — на князя Рагвалода, княгіню Прадславу, Уладзіміра, на сыноў Рагнеды, на гарады, з якімі было злучана не няпростае жыццё. Змест кнігі складаюць творы 35 аўтараў – ад паэмы «Гарыслава» Янкі Купалы да гістарычнага нарыса Міколы Ермаловіча «Першыя звесткі пра беларускую даўніну».



У гэтым шырокім дыяпазоне зборнік знаёміць чытача з вершамі Рыгора Барадуліна, Дануты Бічэль, Вольгі Іпатавай, Алеся Разанава, Антаніны Хатэнка, прозай Кастуся Тарасава, Вітаўта Чаропкі, эсэ Уладзіміра Арлова ды іншымі. Падаюцца ў кнізе пераклад урыўка з паэмы «Цары» Тараса Шаўчэнкі, нарыс Юркі Віцьбіча «З мячом Рагнеды, з крыжам Прадславы за маці Беларусь!»

Кніга праілюстраваная падборкай малюнкаў, якія дазваляюць лепш уявіць тысячагадовай даўнасці краявід, што асабліва карысна для юнага чытача.

Складальнік кнігі – паэт Сяргей Панізнік — вядомы не толькі сваёй паэзіяй, але шырокай культурай. Ён даўно апякае гэты кніжны серыял.

Кніга будзе цікавая шырокаму чытацкаму колу, а школьнікам дасць незаменны ўрок як па старажытнасці, так і па розных жанрах роднай літаратуры і розным адлюстраванні зместу адной эпохі рознымі творцамі. ■

# Проблемы с евро

Руди ДОРНБУШ,
профессор экономики в MIT

**Сценарий развития евро превратился в полную импровизацию. Все помнят пробки, вылетавшие из шампанского, и ту гордость, которая сопровождала рождение Европейского Денежного Союза. Наконец-то доллару брошен вызов, может даже получится свергнуть его с трона. Великий политический проект Европы – Европейский Союз – теперь приобрел свой экономический эквивалент. Однако сегодня эти мечты потускнели.**

Евро падает день ото дня. Уже не кажется невозможным то, что казна США вступит в игру, чтобы спасти новые деньги Европы от финансового кризиса. Какая ирония: валюта, созданная как конкурент доллару в превосходстве над другими валютами, теперь нуждается в поддержке США, чтобы остановить свое падение. Но может дойти и до этого.

Все это происходит на фоне приближения Европы к введению настоящих евробанкнот в январе 2002 года. Не приходится удивляться, что в Германии близящееся исчезновение дойч-марки в пользу евробанкнот причиняет глубокое беспокойство. Не удивительно и то, что французы, у которых редко была валюта, которую они могли назвать своей, нервничают и хотят, чтобы кто-нибудь хоть что-нибудь предпринял. Такое беспокойство весьма преувеличено. Конечно, Европе больно потерять гордость в своей новой валюте так быстро, но в чисто экономических понятиях никакой опасности в сегодняшней слабости евро нет. Замешательство Европы, скорее всего, не ухудшится и не продлится слишком долго.

Сейчас особо важны пять вопросов:

1. Кого винить?
2. Что можно предпринять?
3. Настанет ли перелом или все может стать еще хуже?
4. Как долго продлится слабость евро?
5. Что принесет перемену?




Поиски виновного естественны для политиков и тех, кто боится, что они совершили большую ошибку. Однако в этих обстоятельствах инстинкту доверять нельзя. Новый Европейский Центральный Банк, главный общественный подозреваемый, — вне обвинений. Поведение ЕЦБ до сих пор не было впечатляющим, но он тем не менее справляется с падением евро неплохо. Ни у кого не сдали нервы, не было отклонения от цели стабильных цен, и его общественная презентация хорошеет день ото дня.

Главная причина проблем с евро лежит в состоянии экономики США. Даже когда ситуация в США стала более сложной, за счет повышения инфляции и замедления роста производительности, с последующим падением рынка акций, это не привело к ухудшению общего состояния рынка. Скольжение евро основано на европейском абсолютном и относительном спаде по сравнению с экономикой Америки.

Что же можно предпринять? Здесь напрашивается еще одна ошибка: сделать что-нибудь, хоть что-то, только сделать! Но чтобы Европа ни сделала сейчас, это только бы усложнило ситуацию. Поднятие процентных ставок до небес не решит проблемы, поскольку оно приведет к спаду, и ЕЦБ не смог бы долго придерживаться этой стратегии.

Вмешательство еще менее желанно. В мире уже слишком большой выбор валют. Поэтому сейчас лучше всего дать рынку позаботиться о самом себе. Да, США может развернуть евро, сделать то, что ни один европейский глава правительства или финансовый министр сделать не в силах. Алану Гринспану было бы достаточно только намекнуть, что евро слишком слабая валюта, но он мудро придерживает свои слова для более важных вопросов.

Падение евро еще не достигло своего «дна». В 1985 году ценность европейских валют в целом достигала 67 центов США, что на 25% ниже сегодняшнего уровня. Скорее всего, хотя такую возможность исключать нельзя, евро не упадет так низко. Скорее всего, евро установится где-то на отметке около 80 центов США, а потом начнет вновь набирать высоту. Но в связи с этим полезно помнить, что слабость евро еще не является проблемой – она делает европейский бизнес высоко конкурентным. Без такого стимула рост возможно был бы гораздо ниже сегодняшних 3%.

Что приведет к восстановлению евро? Ответ почти наверняка должен прийти из Америки. Когда и если экономика Америки замедлит свое развитие и когда оценки активов США станут более сомнительными, евро вновь станет привлекательной для инвестиций. В этот момент разочарованные держатели евро изменят свой взгляд на свои позиции, и внешние инвесторы из США и Японии начнут верить в то, что диверсификация за счет евро – осуществима. В конце концов, сейчас евро можно купить подешевке.

Когда и если этот период настанет, определенное вмешательство ЕЦБ может начать свой долгий поход. Это время может наступить через несколько месяцев или через год. До тех пор хрупкость евро будет занимать первые страницы газет, и дебаты по поводу того, кого винить и что делать, будут по-прежнему продолжаться. Временное доброжелательное пренебрежение является лучшим ответом, но пусть европейские банкиры не говорят об этом вслух. ■

P. S.

**СУВЯЗЬ ЧАСОЎ**



Мінск. Праспект Машэрава. Татарская мячэць. 1960-е гады



Фота Ул. ШЛАПАКА

Мінск. Тое самае месца. Пасля 1960-х гадоў

**СПОРТ**

## Вялікі валейбол у Мінску

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

З 24 па 28 траўня ў Лядовым палацы, што па вуліцы Прытыцкага, пройдуць кваліфікацыйныя матчы чэмпіянату Еўропы па валейболе сярод жаночых маладзёжных (да 1982 года) камандаў групы «Б». Удзел у размеркаванні пуцёвак у групу «А» прымуць зборныя Францыі, Грэцыі, Партугаліі, Польшчы, Венгрыі і Беларусі.

Усе гульні з удзелам нашай каманды будуць праходзіць штодзённа а 19-ай гадзіне. ■

## Першы беларус на «Джыра д'Італія»

Аляксей СТАЎСКІ

У першыню за ўвесь час існавання прафесійнага веласпорту ўдзел у гонцы настолькі высокага ўзроўню прыняў беларускі велагоншчык. Ім стаў Яўген Сенюшкін, які быў заяўлены ў складзе адной з камандаў на «Джыра д'Італія», адну з трох найбольш значных велагонак, за якімі сочыць увесь свет. У склад гэтай «вялікай тройкі» гонак уваходзяць таксама «Тур дэ Франс» і «Вуэльта».

Зразумела, нашаму маладому спартсмену пакуль што рана на роўных спаборнічаць з элітай сусветнага веласпорту, і па выніках чатырох мінуўшых этапаў «Джыра» Сенюшкін пакуль што займае месца ў другой сотні. Наперадзе яшчэ амаль два тыдні маршруту па дарогах Італіі. ■

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка»
(г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1775 Нумар падпісаны ў друк 22/05/2000 (15:00) Наклад – 8.890